Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№35 сакавік 2014

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

## 25-га сакавіка - Дзень Волі!!!




*Гарадзенскія праваабаронцы ў Дзень Волі ўшаналі памяць тых, хто змагаўся за Беларускую Незалежнасць. Сёлетняе ўшанаванне было прысвечана таксама падтрымцы ўкраінскага народу.*

# Гарадзенскія праваабаронцы 25-га сакавіка, у Дзень Волі, ўшанавалі ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі і выказалі падтрымку ўкраінскаму народу ў складаны для яго час



*Грамадскія праваабаронцы Гародні віншуюць чытачоў "Гарадзенскай вясны", а таксама ўсіх, хто лічыць ідэалы БНР святым набыткам нашай гісторыі і нацыі з Днём Волі. 25 сакавіка ў чарговыя ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч і Раман Юргель наведалі мясціны, звязаныя з гісторыяй БНР, а таксама іншымі славутымі старонкамі айчыннай гісторыі. Мэтай гэтай сімвалічнай акцыі было ўшанаванне памяці тых, хто змагаўся за беларускую незалежнасць. Сёлетняе ўшанаванне было прысвечана таксама падтрымцы ўкраінскага народу ў складаны для яго час – грамадскія актывісты сфатаграфаваліся ў памятных месцах з беларускімі і ўкраінскімі сцяжкамі.*

# Распад і разлажэнне

***На нашых вачах адбываюцца такія гістарычныя падзеі, якія ўдаецца ўбачыць не кожнаму пакаленню. Тое, што зараз дзеецца на Украіне, па маштабнасці і значнасці можна параўнаць хіба з часам распаду Савецкага саюзу ў канцы васьмідзесятых гадоў ужо мінулага стагоддзя. Тое, чым гэта скончыцца – таксама можна прадказаць, невядома толькі колькі працягнецца гэтая вайна пуцінскай Расеі супраць Украіны і колькі яна прынясе ахвяраў. А скончыцца ўсё ганебнай паразай Расеі і яе далейшым распадам. Гісторыя не можа развівацца інача. Альбо ўсё пяройдзе ў трэцюю сусветную вайну і адбудзецца поўнае знішчэнне цывілізацыі на планеце Зямля.***

Так званы дэмакратычны свет сарамліва і старанна заплюшчваў вочы на ўсе праявы новага расейскага імперыялізму. А ён жа быў такім відавочным і прадказальным. Ад пачатку прыходы да ўлады ў Маскве Пуціна ўсё было зразумела. Пра небяспеку неафашызму пісалі публіцысты і аналітыкі, казалі многія палітыкі розных краін. Але спярша заходняя супольнасць праглынула другую чачэнскую вайну і знішчэнне на зямлі Ічкерыі пачаткаў цывілізацыйнага развіцця. Паралельна Захад працягваў аддаваць у васальную залежнасць Маскве трынаццатую па плошчы дзяржаву ў Еўропе – нашу Беларусь. Потым было расейскае ўварванне ў Грузію і вайсковы гвалтоўны захоп яе земляў. Захад усё хітаў галавой, усё працягваў сваю пустую рыторыку пра “перазагрузку”, вёў сваю рэал-палітыку, думаючы, што ўсё неяк развяжацца само па сабе, што “кліента” можна будзе “угаварыць” і “перавыхаваць”. Крэмль жа рабіў і далей, што хацеў – забіваў сваіх апанентаў у Лондане, купляў алімпійскія гульні і чэмпіянат свету па футболе… У выніку дайшло да таго, што Пуцін сапраўды стаў найбольш уплывовым чалавекам свету і натуральна адчуў свае беспакаранасць і усёдазволенасць. Ягоную логіку зразумець сапраўды вельмі проста. Тым больш, што ў Бога ён не верыць, а гісторыі не ведае. І калі ўкраінскі народ скінуў крамлёўскага стаўленніка Януковіча, выцерпець гэта фанабэрысты ўладар Пуцін проста не мог. У выніку такое вайсковае ўварванне ў Крым і сапраўдная пагроза незалежнасці ўсёй Украіны.




Сучасная Расея – гэта калос на гліняных нагах, у гэтай дзяржавы няма ніякай ідэалогіі, акрамя ядзернай дубіны і паталагічнага на роўні біялогіі вялікадзяржаўнага шавінізму. Сённяшняя Расея – гэта невылечна хворая дзяржава, якая перажывае разлажэнне па ўсіх кірунках. Яна непазбежна разваліцца і толькі тады атрымае шанец стаць цывілізаванай і дэмакратычнай. А вось пуцінскі рэжым патрэбна было душыць яшчэ ў зародку, ратаваць ад яго шматнацыянальны расейскі народ і суседнія краіны. Трэба было ціснуць на яго дыпламатычнымі, палітычнымі і найперш эканамічнымі сродкамі. Думаю, што і цяпер яшчэ не позна, толькі наўрад ці ўсе гэтыя абамы-меркелі здольныя на нешта сапраўды рашучае і цвёрдае. Палітыкі не хочуць памятаць гісторыі, не хочуць рабіць з яе высновы. Яны жывуць найперш прагай нажывы альбо проста цешацца сваёй уладай. А цэлыя народы мусяць з-за гэтага пакутаваць. Але свет цесна зніціваны, калі дыктатарскія рэжымы пераходзяць межы палітычнай прыстойнасці, а тым больш дзяржаўныя межы, яны ўжо ня могуць спыніцца.

Да таго ж Захад не разумее прыроду гэтай палітыкі Расеі, якой ужо ня менш чым 600 гадоў. Для такіх, як Пуцін, вайна – гэта “мать родна”. ¨н не прыдумаў нічога новага, спалучыўшы ў сваіх “вучэнні” і практыцы найгоршае з расейскага царскага імперыялізму і савецкага камунізму. За пятнаццаць гадоў яму ўдалося знішчыць дэмкратычную апазіцыю ў самой Расеі, збудаваць татальную карупцыйную і карную сістэму, аб’яднаць усе цемрашальскія рэваншысцкія сілы, стварыць пуцінюгенд і новую гебельсаўскую прапаганду. Аднак, наўрад ці расейскі народ прагне новай вайны так, як яго кіраўніцтва, наўрад ці вытрымае гаспадарка Расеі новыя шалёныя выдаткі.

Крымская вайна 1853-56 гадоў скончылася для расейскай імперыі жорсткай і ганебнай паразай. У разгар той вайны заўчасна памёр і цар Мікалай І, адзін з сама рэакцыйных і неадэкватных уладароў. Гісторыя развіваецца па спіралі…

***Уладзімір Хільмановіч***

# Хроніка перасьледу і дыскрымінацыі Гарадзеншчына, студзень-сакавік 2014 г.

**У пачатку студзеня сябру Рады Праваабарончага цэнтра "Вясна" Тацяне Равяцы было даслана паведамленне за подпісам намесніка начальніка Ашмянскай мытні А.В. Датчука, у якім сказана, што мытня атрымала з Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Гродненскага аблвыканкаму заключэнне экспертнай камісіі па выніках вывучэння друкаванага выдання "Асьвечаныя Беларушчынай", аўтарам якога з'яўляецца праваабаронца і літаратар, палітвязень Алесь Бяляцкі. Кнігу Алеся Бяляцкага "Асьвечаныя Беларушчынай" забаранілі да ўвозу ў Бела-**

**13 студзеня** Іна Соркіна, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, выкладчыца Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы была звольненая з працы. Пры тым былі зафіксаваныя істотныя парушэнні ўніверсітэцкага заканадаўства.

**13 студзеня** адбылося судовае паседжанне па скарзе грамадскага актывіста Мікалая Уласевіча на дзеянні Астравецкага райвыканкаму, які адмовіў яму праводзіць пікет **7 снежня мінулага году** па заяўленай тэме: "Карупцыянераў да адказнасці!". Разгляд быў перанесены. **16 студзеня** суд адмовіў актывісту ў задавальненні скаргі.

**18 студзеня** гарадзенскі навукоўца, публіцыст Алесь Астроўскі быў выкліканы ў абласную пракуратуру. Ад прастаўніка абласной пракуратуры Валерыя Павядайкі Алесь Астроўскі атрымаў вуснае папярэджанне за публікацыю і інтэрв'ю незалежнаму выданню адносна існуючай палітычнай сістэмы ў Беларусі.

**20 студзеня** ў абласным судзе прайшоў разгляд касацыйнай скаргі грамадскіх праваабаронцаў Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча і Рамана Юргеля на рашэнне суда Ленінскага раёну гораду, якім была прызнаная законнасць адмовы гарвыканкамам праводзіць ім **10 кастрычніка 2013** году інфармацыйны пікет пра сітуацыю з смяротным пакараннем у Беларусі. Калегія абласнога суду ў складзе трох суддзяў узяла бок гарвыканкаму і суду першай інстанцыі.

**21 студзеня** ЦВК адмяніў рэгістрацыю абедзвюх ініцыятыўных груп грамадскага актывіста Мікалая Уласевіча, вырашыўшы, што раённая камісія дапусціла парушэнне часткі 5 артыкулу 60 Выбарчага кодэксу, згодна з якой грамадзянін можа вылучацца кандыдатам у дэпутаты мясцовага савету толькі па адной выбарчай акрузе. **23 студзеня** Уласевіч накіраваў скаргу ў Вярхоўны суд на рашэнне Цэнтральнай камісіі.

**24 студзеня** ваўкавыскі грамадскі актывіст Віталь Гуляк атрымаў адмову ў правядзенні пікету на знак салідарнасці з украінскім Майданам. **9 студзеня** ён падаў заяўку на правядзенне ў гарадскім парку Ваўкавыску (гэтае месца афіцыйна вызначанае ўладай для правядзення масавых мерапрыемстваў) **25 студзеня** інфармацыйнага пікету на знак салідарнасці з украінскім народам у яго памкненні ісці ў Еўразвяз. Афіцыйны адказ датаваны **17-м студзеня**.

Грамадскі актывіст з Астравецкага раёна Мікалай Уласевіч атрымаў афіцыйны адказ з Вярхоўнага суда, дзе ён спрабаваў абскардзіць пастанову ЦВК па скасаванні рэгістрацыі дзвюх ягоных ініцыятыўных груп. Вярхоўны суд рашэннем суддзі В. Г. Кулік ад **29 студзеня** падтрымаў рашэнне ЦВК і адмовіў у пачынанні грамадзянскай справы.

У Гародні **4 лютага** раённыя адміністрацыі сфармавалі ўчастковыя выбарчыя камісіі ў стылі алегра. У Ленінскім раёне старшыня паседжання адмыслова вылучыў нейкі час, каб растлумачыць усім прысутным, што заканадаўства не абавязвае пускаць на паседжанне незалежнага назіральніка, грамадскага праваабаронца Віктара Сазонава. У абодвух раёнах камісіі сфармавалі за 15-20 хвілін.

**6 лютага** ў Вялікай Бераставіцы абвесцілі папярэджанне Алегу Рамашкевічу за раздачу газет. Выбарчыя камісіі палічылі недапушчальным раздачу газет, надрукаваных накладам 299 асобнакаў – "Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада)" і "Голас памежжа", якія раздаваў Алег Рамашкевіч падчас збору подпісаў. Камісіі палічылі, што ў газетах утрымліваецца агітацыйны матэрыял, які звязаны з прэтэндэнтам на кандыдатства.

**10 лютага** незалежнага журналіста Юрыя Дзешука з Бярозаўкі Гарадзенскай вобласці дапыталі ў Лідскай раённай пракуратуры. Пракурор пытала ў яго, ці працуе ён на польскае радыё і на якія замежныя сродкі масавай інфармацыі ён працуе.

**12 лютага** ў Гародні адбыліся адміністрацыйныя працэсы над сябрамі Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі, удзельнікамі выбарчага пікету на вуліцы Ажэшкі **7 лютага.** У выніку тры чалавекі – Аляксандра Васілевіч, Ежы Грыгенча і Руслан Кулевіч былі засуджаныя да штрафаў памерам 15 базавых велічыняў. Ірына Давідовіч, сябра АГП з Іўя, была аштрафаваная на 10 базавых велічыняў. Сябры АГП былі выкліканыя ў Ленінскі РАУС Гародні з самай раніцы. Цэлы дзень іх трымалі ў міліцыі, не выпусціўшы нават паабедаць. Пасля 14.30 у РАУС прыехала суддзя Алена Пятрова, якая і аформіла карныя выракі. Міліцыя і суддзя палічылі, што актывісты АГП парушылі заканадаўства, паколькі збіралі подпісы супраць увядзення новага падатку на аўто.

**14 лютага** актывістаў АГП Аляксандру Васілевіч у Гародні і Мікалая Уласевіча ў Варнянах выклікаў крымінальны вышук у пытаньні подпісаў на партыйных пратаколах па вылучыньні кандыдатаў у дэпутаты.

**14 лютага** Слонімская раённая выбарчая камісія абвесціла папя-

рэджанне сябру БХД Барысу Кучынскаму за пікет, які ён праводзіў з паплечнікамі **8 лютага**. Папярэджанне было зроблена за раздаванне інфармацыйных бюлетэняў.

**20 лютага** незалежны журналіст з Бярозаўкі Юры Дзяшук атрымаў папярэджанне за супрацоўніцтва з Беларускім Радыё Рацыя ад галоўнага пракурора Лідскага раёна Станіслава Дмухоўскага.

**28 лютага** адбылося паседжанне Гарадзенскай абласной выбарчай камісіі, на якім разглядаліся скаргі незарэгістраваных па розных акругах вобласці кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў. Агулам камісіяй было разгледжана 9 скаргаў ад 8 розных грамадзянаў. Аніводная з іх (!) не была задаволена.

**3 сакавіка** Гарадзенскі абласны суд не задаволіў скаргу грамадскага актывіста з Варнянаў Мікалая Уласевіча, якую ён падаў на адмову ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты абласнога савету.

**6 сакавіка** Гарадзенскі абласны суд не задаволіў скаргу грамадскага актывіста з Астраўца Івана Крука, якую ён падаў на адмову ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты раённага савету.

**10 сакавіка** адзінага кандыдата ў дэпутаты Гарадзенскага гарсавету ад партыі БНФ Вадзіма Саранчукова гарадская выбарчая камісія “зняла” з выбарчага працэсу. Падстава – нібыта парушэнні ў дэкларацыі даходаў, хоць сьпярша камісія зарэгістравала Саранчукова.

**11 сакавіка** ў гарадзенскім абласным судзе прайшоў разгляд скаргаў трох актывістаў Аб’яднанай грамадзянскай партыі – Аляксандры Васілевіч, Ежы Грыгенчы і Алены Давідовіч. Яны асрэчвалі незаконны прысуд ім штрафаў. Суддзя Андрэй Кавальчук не задаволіў касацыйныя скаргі.

**17 сакавіка** ваўкавыскі грамадскі актывіст Віталь Гуляк раённым судом засуджаны да грашовага штрафу памерам 10 базавых велічынь. Гуляк быў затрыманы ваўкавыскай міліцыяй **13 сакавіка** за тое, што праводзіў адзіночны пікет у падтрымку Украіны. Суддзя Ваўкавыскага раённага суду Мікалай Талашка аштрафаваў грамадскага актывіста, а таксама пастанавіў знішчыць матэрыялы ўдзельніка пікету.

**17 сакавіка** грамадскаму актывісту Мікалаю Уласевічу не дазволілі балатавацца нават у сельскі Савет па Варнянскай выбарчай акрузе №4. Адпаведным рашэннем выбарчай камісіі яго пазбавілі статусу кандыдата ў дэпутаты. Фармулёўка пастановы Варнянскай камісіі – нібыта за заклік да байкоту выбараў, які быў змешчаны ва ўлётцы кандыдата.



**17 сакавіка** Гарадзенская абласная камісія не задаволіла скаргу Вадзіма Саранчукова на скасаванне рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты гарсавету.

**19 сакавіка** Ваўкавыскі раённы суд адмовіў Гуляку ў задавальненні скаргі на дзеянні службовай асобы Ваўкавыскага райвыканкама – намесніка старшыні райвыканкаму Уладзіміра Захарчука па дзвюх ранейшых заяўках на правядзенне шэсця і пікету. Заявы падаваліся Гуляком на **25 студзеня** і на **19 лютага 2014 года** – у правядзенні мерапрыемтсваў было адмоўлена.

**21 сакавіка** Астравецкі раённы суд не задаволіў скаргу Мікалая Уласевіча на скасаванне рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты сельскага савету. Суддзя Аляксандар Дзямешчык узяў бок прадстаўнікоў выбарчай камісіі.

**24 сакавіка** гарадзенскі журналіст-фрылансер Алесь Дзянісаў быў выкліканы ў міліцэйскае аддзяленне, дзе на яго быў складзены пратакол пра нібыта адміністрацыйнае правапарушэнне – за тое, што ён зняў відэа ў гарадзенскім лялечным тэатры – “незаконны выраб і распаўсюд інфармайнага матэрыялу”.

**25 сакавіка** гарадзенская міліцыя фактычна на паўдня затрымала грамадскага актывіста Алеся Кіркевіча. Спачатку ён быў выкліканы незразумелай позвай на 15-ю гадзіну ў аддзяленне міліцыі №1, што ў цэнтры гораду, для апытання і “прафілактычнай гутаркі”. Пасля на кватэры Кіркевіча з удзелам панятых быў праведзены агляд памяшкання на прадмет забароненых матэрыялаў. У міліцыі дапытваліся пра датычнасць да ўлётак з заклікам байкатаваць расейскія тавары, якія нібыта з’явіліся ў раёне пражывання актывіста.

**28 сакавіка** суд прызнаў скаргу палітвязня Мікалая Аўтуховіча, які адбываў пакараньне ў гарадзенскай турме, неабгрунтаванай і адмовіў у яе задавальненні. Рашэнне прынятае суддзёй Ленінскага раённага суда Гародні Жанай Краўчанкай. Два папярэднія дні ў Гарадзенскай турме нумар 1 на выязным пасяджэнні адбываўся разгляд скаргі вязня на спагнанні, якімі пакарала яго адміністрацыя.

**31 сакавіка** судовая калегія Гарадзенскага абласнога суду ў складзе суддзяў Уладзіслава Міхневіча, Аляксандра Калесніка і Ларысы Паляковай не задаволіла скаргу Тацяны Равякі на рашэнне Ашмянскага раённага суду, які прызнаў законнай забарону на ўвоз у Беларусь кніжкі палітвязьня Алеся Бяляцкага “Асьвечаныя беларушчынай”.

У пачатку красавіка стала вядома, што міліцыя пачала адміністрацыйныя справы супраць праваабаронцаў Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча і Рамана Юргеля, якія правялі віншавальную акцыю **25 сакавіка**. Пазьней яна была трактавана міліцыяй і судом як несанкцыянаванае мерапрыемства.

# Урокі гісторыі

***Гэта пазней ужо была вызначаная дата, калі пачалася Першая сусветная вайна. Ды і назвалі яе так толькі пасля Другой сусветнай. А напачатку гэта было толькі жорсткае і цынічнае забойства аднаго чалавека. Хоць і вельмі ўплывовага, але аднаго. Хто бы мог падумаць тады, у якія ахвяры і пакуты гэтае забойства выльецца. Тады сапраўды было даволі цяжка гэта прадказаць. Не было яшчэ гістарычнага досведу як пачынаюцца і да чаго прыводзяць сусветныя войны. Свет імкліва і незразумела мяняўся пад уплывам новых ідэалогій, а барацьба арганізацыі “Млада Босна”, да якой і належаў забойца, многімі ўспрымалася як натуральная. Бо грунтавалася яна на аптымістычных лозунгах аб’яднання ўсіх паўднёвых славян у адну вялікую краіну. Усяго толькі. Ідэя як ідэя. А вось метады рэалізацыі…***

Зараз жа ў адну вялікую краіну нехта хоча аб’яднаць ужо ўсіх ўсходніх славян. І гэтая ідэя на першы погляд здаецца не больш небяспечная, чым у “Млада Босны”. Розніца, хіба што, толькі ў геаграфіі. А вось метады, напэўна, застаюцца тыя ж. І як вынік, такімі ж могуць стаць і наступствы. Калі своечасова не прыкласці сілы ўсяго чалавецтва, каб іх пазбегнуць.

Вось, прыкладам, Другой сусветнай вайны ўжо можна было калі не пазбегнуць, то хоць прадказаць яе непазбежнасць. Ці нават супакоіць агрэсара ад пачатку. Гістарычны ж досвед ужо быў ад Першай сусветнай. І ахвяраў тады магло б быць менш. Але пакуль Трэці рэйх збіраў у адну вялікую краіну гэтым разам ўсё нямецкае насельніцтва, еўрапейскія палітыкі сапраўдны пачатак вайны праспалі. Можа таму яе афіцыйным пачаткам лічыцца дата, калі ўжо былі пад фашысцкім ботам і чэхі, і аўстрыйцы, а будучыя ахвяры гітлерызма закрывалі на гэта вочы падпісанымі з Германіяй дамовамі пра ненапад.

Агрэсара ўтаймавалі толькі заплаціўшы за сваю нядбайнасць жудасны кошт. Таму вялікім гэтага свету, ад каго залежаць рашэнні, хіба трэба ў будучым быць больш пільнымі. Але як трапна падмеціў адзін мудрэц, гісторыя вучыць толькі таму, што нічому не вучыць. Ці то гісторыкаў ніколі да ўлады не дапускаюць, ці то далезшы да ўлады, гісторыкі гісторыю забываюць адразу і назаўсёды, але гістарычных аналогій і паралеляў вялікія гэтага свету бачыць не жадаюць. Хоць гэтымі гістарычнымі прыкладамі ім ужо даўно ў вочы тыкаюць.

І нават зараз, калі ўсходняя баявая тэхніка топча ўкраінскую зямлю, заходні свет працягвае ўгаворваць расейскае кіраўніцтва не ўводзіць ва Украіну войскі. Але ж яны ўжо даўно там! Якая б не была ідэя іх прыходу, метады уводзяць у стан жаху.

Яны ідуць без сцягоў, без пагонаў, без іншых вайсковых знакаў… Стары савецкі прыёмчык. Некалі і мяне паслалі служыць у Чэхаславакію, і каб схаваць, што там ёсць спецыяльныя дэсантныя войскі, загадалі зняць дэсантныя мундзіры. Толькі нашы камандзіры тады не паслухаліся начальства. Наверх адрапартавалі, што загад выкананы, а нам сказалі пагоны не чапаць, цяльняшкі не здымаць, берэтамі ганарыцца. Бо жаўнер без мундзіра, гэта не жаўнер, а бандыт. ¨н не мае вайсковай славы, не мае вайсковага гонару, адвагі, ідэі… Нічога не мае. Нават Радзімы не мае. А толькі як бандыт будзе дрыжэць за сваю скуру і крыўдзіць слабых ды нявінных.

І праўду казалі. Бо зараз самыя бачым, як галоўнакамандуючы Расеі, ён жа і кіраўнік яе, разам з міністрам узброеных сіл, адмовіліся ад сваіх беспагонных салдат, заявіўшы, што іхных ваякаў там няма. Маўляў, нейкія людзі з зброяй лазяць, але гэта не расейскае войска. Ну і праўда. Ці ж можна называць войскам узброеныя атрады без вайсковай ідэнтыфікацыі, дзе нават твары ваякаў адмыслова схаваныя ад цывільнага насельніцтва. Сапраўдныя афіцэры ад такога сораму маглі б застрэліцца.

Зрэшты, не пра іх цяпер. Бо ваенныя ўжо нічога не вырашаюць. Працэс пайшоў. Некалі пасля, гэтую вайну неяк назавуць. Можа нават Трэцяй сусветнай. Не дай Бог, канешне. І дату яе пачатку вызначаць. Можа гэта будзе дата рэферэндуму ў Крыме, за ўваход у Расею. А можа дата пераходу першым рускім ваенным украінскай мяжы. А можа дата нападу Расеі на Грузію. Ці нават дзень, калі Ельцын адрокся ад улады на карысць Пуціна. І тады нашчадкі дадуць гістарычную ацэнку ўсім сённяшнім палітыкам, калі іх так можна назваць. І будуць не разумець, як людзі, якія атрымліваюць прэстыжныя прэміі і называюць сябе палітыкамі, і ў руках якіх ёсць мацнейшыя разведкі і рэсурсы, маглі праміргаць сапраўдную небяспеку, а займаліся трэцімі справамі.

Але як ні парадаксальна, чым закончыцца расейска-ўкраінскі канфлікт залежыць зараз усё ж выключна ад гэтых ад палітыкаў. Ад тых палітыкаў, якім гісторыя, на папярэдніх прыкладах, паказвае чым можа ўсё скончыцца. Першая сусветная скончылася развалам ажно чатырох імперый: Германскай, Асманскай, Аўстра-венгерскай і Расейскай. ¨сць пра што задумацца тым, хто сёння адраджае імперыю. У Другой сусветнай, нават краіны-пераможцы вымушаныя былі адмовіцца ад сваіх калоній. І гэты працэс быў незваротны. Ну, а што стала з Германіяй, таксама ўсе ведаюць. Зноў прычына задумацца і пачытаць гісторыю і сённяшняму расейскаму кіраўніцтву. І не тую гісторыю, якую яны самі напісалі і прымушаюць яе вывучаць свой народ. А сапраўдную.

Толькі ці застаўся ў іх час, каб пачытаць гістарычны падручнік.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на красавік 2014 году

**1 красавіка**
105 гадоў таму (1909) – У ў вёсцы Пляшкі на Слонішчыне (з 1964-га саветы перайменавалі яе ў Партызанаўку) нарадзіўся Аляксандар Асіпчык, беларускі
грамадскі дзеяч, царкоўны дзеяч у эміграцыі (Нямеччына, ЗША).
100 гадоў таму (1914) – У в. Лявонцева (Мантураўскі р-н, Кастрамская вобл., Расея) нарадзіўся Васіль Струмень (сапр. Аляксандар Лебедзеў), беларуска-украінскі пісьменьнік. Жыў у Зачэпічах (Дзятлаўскі р-н).
95 гадоў таму (1919) – У мястэчку Мір (Карэліцкі р-н) пачалося паўстаньне (доўжылася да 4 красавіка) мясцовых жыхароў супраць улады бальшавікоў. Было задушана карнікамі, у баёх загінулі 25 паўстанцаў і 30 чэкістаў.



**5 красавіка**
230 гадоў таму (1784) – Памёр Францішак Ярманскі (Юрманскі), каталіцкі рэлігійны дзеяч, педагог. Быў рэктарам Віленскага і Шчучынскага піярскіх калегіюмаў. Вядомы таксама тым, што 12 гадоў быў хатнім настаўнікам Радзівілаў.

**8 красавіка**
110 гадоў таму (1904) – У Лідзе нарадзіўся Сьцяпан Варшаўскі, амэрыканскі матэматык, прафесар унівэрсітэту ў Мінесоце.

**10 красавіка**
190 гадоў таму (1824) – Нарадзіўся Антон Брахоцкі, уладаньнік маёнтку Морына (Івейскі р-н), удзельнік паўстаньня 1863 году, пасьля якога быў высланы.

**16 красавіка**
220 гадоў таму (1794) – Якуб Ясінскі ўзначаліў вызвольнае паўстаньне ў ВКЛ.

55 гадоў таму (1959) – У Менску памерла Зінаіда Бандарына, беларуская пісьменьніца, паэтка. Нараджэнка Гародні. Пахавана на менскіх Усходніх могілках.

**18 красавіка**
***Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясьцін.***

**20 красавіка**
265 гадоў таму (1749) – У Полацку памёр Мацей Бейтнік (нар. у лютым 1708 ці 1705), беларускі жывапісец. Выканаў насценныя размалёўкі ў езуіцкім калегіуме ў Жодзішках (Смургонскі р-н).

**22 красавіка**
20 гадоў таму (1994) – У Менску прайшла першая сустрэча беларускай моладзі сьвету (доўжылася 22-23 красавіка, 200 дэлегатаў з краін былога СССР і Польшчы).

**23 красавіка**
80 гадоў таму (1934) – У Вераскава (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Уладзімір Конан, філосаф, літаратуразнавец, культуролаг, публіцыст.

**24 красавіка**
55 гадоў таму (1959) – У Лідзе адчынены краязнаўчы музей.

**25 красавіка**
110 гадоў таму (1904) – У Варшаве памёр Францішак Далеўскі (нар. у 1825 у фальв. Руднікі, Лідзкі пав.), адзін з стваранькікаў Братняга зьвязу літоўскай моладзі, удзельнік паўстаньня 1863-64.
15 гадоў таму (1999) – У Гародні прайшло шэсьце патрыётаў з паходнямі. Скончылася жорсткай сутычкай з міліцыянтамі на вуліцы Ажэшкі.

**26 красавіка**
Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986).

**28 красавіка**
220 гадоў таму (1794) – Жыхары Гародні далучыліся да паўстаньня Тадэвуша Касьцюшкі.
70 гадоў таму (1944) – У Іўі памёр Ільдафонс Бобіч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, выдавец. Пахаваны каля івейскага касьцёлу.

**30 красавіка**
Сусьветны дзень пародненых гарадоў.

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
сакавік 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

